


# Наша Слова




Штотыднёвік (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) № 49 (313) 5 — 11 снежня 1996 г. Кошт -- 1000 рублёў




## ПОСТУП ТЫДНЯ



**○ Пасля рэферэндуму Вярхоўны Савет** 13-га склікання раздзяліўся на дзве часткі: адна падтрымала Прэзідэнта і ўтварыла Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь (110 чалавек), а другая працягвае заставацца ў апазіцыі, не прызнаючы вынікі рэферэндуму. Сацыяльна-эканамічны стан краіны, верагодна, ужо праз некалькі месяцаў выразна пакажа, што чакаць беларусам.

***○ У Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь*** *увайшлі 20 дэпутатаў, якія некалі былі абраныя ў Вярхоўны Савет па акругах Берасцейскай вобласці, 17 — з Віцебскай, па 19 — з Гомельскай і Менскай, 8 — Гарадзенскай, 22 — з Магілёўскай і ўсяго 5 чалавек з Менска. Такім чынам у адзін момант выбаршчыкі 150 акруг з 260 пазбавіліся сваіх прадстаўнікоў у заканадаўчым органе нашай краіны. У Палату прадстаўнікоў трапіла толькі пяць жанчын. Сярод былых фракцый у ПП "Згода" мае 52 чалавекі, камуністы — 21, аграрыі — 24, а "Саюз працы" — 6 чалавек. "Грамадзянскае дзеянне" цалкам засталося ў апазіцыі, лічачы цяперашні працэс незаконным.*

**○ Старшынём Палаты прадстаўнікоў аднагалосна абраны Анатоль Малафееў,** а на пасаду яго намесніка — Уладзімір Канаплёў. Дарэчы, Анатоль Аляксандравіч з 1990 па 1992 год з'яўляўся першым сакратаром ЦК кампартыі Беларусі. Аднак і ён каўбасу па 2,20 не абяцае.

***○ Сярод 110 членаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,*** *практычна, ні адзін не карыстаецца беларускай мовай. Такога ў гісторыі беларускага парламентарызму яшчэ ніколі не было. Па прэзідэнцкай Канстытуцыі ж дзяржаўнымі мовамі нашай краіны з'яўляюцца беларуская і расійская. У мінулым годзе наш народ выказаўся за роўнасць дзвюх моў. Цяпер гэтая "роўнасць" расквітнела... на карысць мовы суседняй дзяржавы.*

**○ У снежні гэтага года спаўняецца 5 гадоў Садружнасці Незалежных Дзяржаў.** 38 працэнтаў прынятых у рамках СНД дакументаў прысвечаны эканамічным і сацыяльным пытанням, 27 — арганізацыйным, 5 працэнтаў — пытанням палітычнага супрацоўніцтва.

***○ Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь даручыў*** *Савету Міністраў устанавіць з 1 студзеня 1997 года мінімальную заработную плату ў памеры 130 тысяч рублёў. Адначасова будуць павялічаны мінімальныя памеры пенсій. Усё добра. А яшчэ было б лепей, каб цэны не падымаліся гэтак імкліва.*

**○ У нашай краіне зарэгістравана звыш сямісот перыядычных выданняў.** Больш падрабязна даведацца пра многія з іх дапаможа каталог "Белорусская пресса-96", які мае намер выдаць у бліжэйшы час Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку. Каталог, на жаль, калі меркаваць па назве, толькі на расійскай мове. Тут з'аканоміліі?

***○ Асноўнымі гандлёвымі партнёрамі Беларусі ў першыя дзевяць месяцаў гэтага года заставаліся*** *Расія (52,7 працэнта ад усяго аб'ёму тавараабароту), Украіна (10,1 працэнта), Германія (6,1 працэнта), Польшча (4,4), Летува (2,5), Латвія (2,4) і ЗША (1,7).*

**○ Запасы гатовай прадукцыі на складах нашай краіны** на першага лістапада склалі 10.606 мільярдаў рублёў. Каму прадаць? І хто ў нас купіць, калі амаль усё робіцца па старых тэхналогіях?

***○ Шаноўныя чытачы!*** *Пакуль яшчэ можна падпісацца на "Наша слова" на першае паўгоддзе 1997 года, калі вы хочаце, каб "НС" прыходзіла да вас па пошце. Дарэчы, у газетных кіёсках "Нашага слова" практычна не было і, хутчэй за ўсё, не будзе. Бібліятэкам таксама, як нам стала вядома, настойліва параілі зверху "Наша слова" не заказваць.*

## СУСЕДЗІ ХОЧУЦЬ БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСЬ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ

Як ужо вядома з прэсы, прэзідэнты трох суседніх з намі краін — Украіны, Летувы і Польшчы ў сумеснай заяве выказалі вялікую занепакоенасць тым, што ў Беларусі можа ўсталявацца дыктатура і пераслед дэмакратычна настроеных грамадзян. У выніку могуць не толькі пагоршыцца натуральныя культурна-эканамічныя дачыненні суседзяў, а і здарыцца, што пачнецца масавая эміграцыя з Беларусі, у тым ліку нелегальная, калі запалоханыя людзі ў адчаі без усялякіх дакументаў ад адпаведных пасольстваў кінуцца праз мяжу.

У Лісабоне, дзе толькі што скончылася сустрэча вышэйшых кіраўнікоў еўрапейскіх краін — удзельніц АБСЕ, прэзідэнты Украіны, Летувы і Польшчы Леанід Кучма, Альгірдас Бразаўскас і Аляксандр Квасьнеўскі на незапланаванай сустрэчы зноў абмеркавалі становішча ў Беларусі, пацвердзіўшы сваю ранейшую заклапочанасць. "Мы суседзі,— сказаў журналістам А.Квасьнеўскі.— Але дэмакратычная Беларусь патрэбная не толькі суседзям, але і ўсёй Еўропе".

У сваю чаргу Прэзідэнт Беларусі А.Лукашэнка, адказваючы на пытанне карэспандэнта "Інтэрфакса", сказаў, што "паважае думку кіраўнікоў суседніх дзяржаў, у той жа час ён заявіў, што "ва ўказаных краін ёсць дастаткова ўласных праблем, каб іх абмяркоўваць і прымаць рашэнні".

Л.М.



Граф Румянцаў — вядомая ў гісторыі Расійскай імперыі постаць. У Гомелі, які ён атрымаў у падарунак ад імператрыцы Кацярыны ІІ разам з наваколнымі землямі, граф распачаў будаўніцтва палаца, добраўпарадкаваў горад, адкрыў першую аптэку. У нашы дні ўдзячныя гамяльчане ўзвялі расійскаму вяльможу бронзавы бюст.

Фота Сяргея Халадзіліна, БелТА

*Уражанні*

## СЭРЦА БЕЛАРУСКІ

Небяспечна цяжкімі намаганнямі сумленных, свядомых, прыхільных да беларускай мовы патрыётаў, імкнецца яна выйсці з сутарэнняў, выпрастацца, узняцца ў поўны рост на сваёй радзіме, паказаць недасведчаным усю сваю касмічную прыгажосць. Хоча беларуская мова, каб нарэшце ў Беларускай дзяржаве да яе аднесліся як да роднай, а не як да якойсь незапрошанай чужаніцы. А ёй не даюць: асадзі назад! — загадваюць. Усімі сродкамі ўладары па-ранейшаму перашкаджаюць ёй трапіць на Алімп дзяржаўнай у Беларусі, вольна пачувацца ў школьных класах і ў аўдыторыях універсітэтаў, у сэрца беларускі, калі і сродкі масавай інфармацыі беларускай жа дзяржавы, прыціснуўшы доўгія вушы баязлівасці, дапамагаюць усімі сваімі гучнымі, бачнымі сіламі ўсемагутнай сённяшняй навале здзекліва замбіраваць затурканае беларускае сэрца ганебнай непавагай да ягонай жа роднай мовы і культуры.

Баліць сэрца беларускі! А ўсё ж яно не адраклося, не адцуралася беларушчыны, а наадварот, насуперак пагпыбленай расійскамоўнай адукацыі і праімперскага ідэалагічнага выхавання, вярнула ў сябе звычаі сваіх бацькоў і дзядоў, пераадолела моцную сцяну ўладнай забароны на беларускую мову. І цяпер, у наш няпросты для жыцця час, сэрца беларускі размаўляе з вамі, дарагія суродзічы, на мове гэтай зямлі — каб чулі, слухалі сябе беларусы і такім чынам змаглі выжыць як народ.

**Святлана ЦІШУК.**
г. Ліда.

*Але!* *Але!*

## "Знаменка" хлусіць

15 лістапада гэтага года, якраз у пятніцу, у газеце "Знамя юности" быў надрукаваны артыкул "Русскоязычным петь... запрещено", а ўнізе стаяў подпіс: "Зміцер Марозаў". У артыкуле наш Беларускі гуманітарны ліцэй — ці не адзіную дзяржаўную навучальную ўстанову, што рыхтуе кадры спецыялістаў і спрыяе адраджэнню беларускай мовы і культуры, — абвінавацілі ў дыскрымінацыі расійскай мовы, нібыта абапіраючыся на факты, зафіксаваныя дыктафонным запісам. Прызнацца, крыўдна было чытаць гэты "праўдзівы" артыкул.

Адзінае, што адпавядае рэчаіснасці, дык гэта тое, што "товарищ" Марозаў прыходзіў у ліцэй, каб дамовіцца пра выступленне там некалькіх рок-гуртоў. Далей жа — чыстая хлусня. Мала таго, аўтар не зусім тактоўна (хутчэй — зусім некарэктна) ўзгадвае некаторых асоб. Напрыклад, пра нашага дырэктара ён піша: "Он, в свою очередь, "забыв" русский язык (хотя и понимая оный)..." І гэта не здзек? Гэта не дыскрымінацыя? Не распальванне міжнацыянальнай варожасці? За такое можна падаваць у суд, але ці варта марнаваць час? У газеце нават узгадваецца Дэкларацыя правоў чалавека, у другім артыкуле якой напісана, што кожны чалавек павінен мець усе правы і свабоды, што абвешчаныя гэтай дэкларацыяй, без якога б там ні было адрознення, як, напрыклад, у адносінах расы, полу, мовы... Ці можна гаварыць пра дыскрымінацыю расійскай мовы ў сувязі з тым, што ліцэісты абралі родную беларускую мову сродкам зносінаў і навучання?

Увогуле, праблем з мовамі ў ліцэі няма. Ліцэісты, акрамя беларускай, вывучаюць расійскую, іспанскую, польскую, чэшскую, нямецкую, французскую мовы і нават лаціну. Мы проста не хочам, каб знікла наша родная мова. Дык што, за гэта нас трэба ганьбіць і абражаць? А разам з намі і нашу родную мову? Мне здаецца, ніводная мова не церпіць такіх здзекаў, як беларуская. Ніводзін народ не адмаўляецца ад сваёй мовы, бо менавіта з яе і пачынаецца культура. У якой яшчэ краіне столькі расійскай мовы, як на Беларусі? (Натуральна, саму Расію мы тут не ўлічваем). Так што можна паспрачацца наконт таго, якую мову і дзе дыскрымінуюць. Але вернемся да артыкула. Каб ва ўсім разабрацца, мы з сябрамі рушылі ў рэдакцыю "Знамя юности".

Знайсці "адказнага" за артыкул было нялёгка. Толькі пасля наведвання намі некалькіх кабінетаў, з'явіўся малады чалавек, які падпісаў артыкул у друк, але размаўляць з намі не пажадаў. Вось адзін з нешматлікіх ягоных выразаў: "Я не понимаю по-белорусски". Так мы і пайшлі ні з чым, але ўвечары патэлефанавалі "товарищу" Зміцеру і папрасілі прыйсці ў рэдакцыю на наступны дзень з дыктафоннымі запісамі.

На наступны дзень сам Зміцер з'явіўся, але "шеф", у якога быццам былі тыя запісы, прымусіў сябе пачакаць. Ніякіх запісаў мы не пачулі, толькі словы: "В суде услышите...". У якім судзе? І ці існуюць тыя аўдыёзапісы ўвогуле? Можа, гэта плён чыёйсьці "багатай" фантазіі? А калі яны ёсць, чаму б іх не даць нам праслухаць? І яшчэ цікава, ці зразумеў бы што-небудзь дыпламаваны журналіст па-беларуску? Калі ж не зразумеў, чаму падпісаў артыкул?

Мы не марнавалі часу і паразмаўлялі з некаторымі супрацоўнікамі "Знаменки". У выніку даведаліся вельмі шмат. "Шеф" (той жа малады чалавек) — Уладзімір Зуеў, якому прыблізна 23 гады. Калегі кажуць: "Умный, способный, но..." Далей мы пачулі, напрыклад, такое: "Зуеў — чалавек гонару і сумлення толькі ў двукоссі. Ён калі-нікалі друкуе "праўдзівыя" артыкулы. Па трох з іх былі ўжо ўзбуджаныя судовыя справы. Адна з іх — з Г.Карпенкам, другая — з газетай "Имя".

"Русскоязычным петь... запрещено" — хутчэй за ўсё справа вышэйпамянёнага Зуева. Ад "товарища" Марозава там толькі прозвішча. "Господину" Зуеву не цяжка падставіць 16-гадовага падлетка. Мабыць, гэты недалёкі хлопчык не разумее, што "плохие дяди" ўцягнулі яго ў тую гульню, якая часта канчаецца трагедыяй духу і сумлення.

Артыкул Зуева-Марозава сканчваецца словамі: "и таким людям разрешают учить наших детей?" Па аналогіі хочацца задаць пытанні: Чым наш Беларускі гуманітарны ліцэй не дагадзіў шавіністычнай, далёкай ад беларушчыны газеце "Знамя юности"? Чаму газета надрукавала неправераныя факты несумленнага журналіста?

**Ксенія МУРАЧ, навучэнка Беларускага гуманітарнага ліцэя.**

**P.S.** Ліцэй з-за замаху кіраўніцтва адміністрацыі Прэзідэнта на наш будынак перажывае зараз не лепшыя часы, але мы, ліцэісты, і нашы старэйшыя таварышы, заўсёды будзем змагацца за сваё добрае імя і годнасць.

Актуальна! Актуальна!

Вольга ІПАТАВА

# Ахінуць далонямі...

Пачну з выказвання нашага Прэзідэнта, якое мяне, ды, упэўненая, не толькі мяне, вельмі ўразіла. Выступаючы ў Дзярждуме Расіі, ён у катэгарычнай форме, нават з нейкай асаблівай жорсткасцю заявіў, што быць у Беларусі расійскай мове дзяржаўнай! Уразіла, што пры гэтых словах ён, нібы акрэсліваючы перспектывы беларускага жыцця, ажно як бы прыстукнуў кулаком.

Адкуль такі ваяўнічы клопат пра расійскую мову ў Беларусі? У яе ёсць свая дзяржава, свая велізарная тэрыторыя, ды і на нашай тэрыторыі, нават без статуса дзяржаўнай, ёй нішто не пагражае. Няўжо яму так карціць задушыць беларускую мову, знішчыць яе, каб і следу не засталося? Такога прыкладу, каб Прэзідэнт краіны гэтак неўзлюбіў лепшае, што выпрацаваў народ на працягу стагоддзяў, проста нідзе больш няма.

Што павінен пры ўсім гэтым адчуваць нармальны чалавек, які разумее неацэнны скарб народа як яго самакаштоўнасць, цаны якой не назначыць ніхто?

Гнеў і абурэнне.

А калі ў ім ёсць яшчэ хаця кропля гарачай крыві, не астуджанай скразнякамі нечувана жорсткай да беларусаў гісторыі, то і жаданне зрабіць усё ад яго залежнае, каб не даць на сваім жыцці загубіць мову беларусаў, не даць тупым невукам, якія цяпер узялі верх, радаснай магчымасці, якою ганарацца разбэшчаныя барбарынцы: напрыклад, упаляваннем апошняга, унесенага ў Чырвоную кнігу жорава, альбо спілаваннем тысячагадовага запаветнага дуба, альбо, у самым няўдалым для іх выпадку, забойствам даверліва аселага ў мясцовай затоцы лебедзя.

Я так і бачу гэтую азвярэла-радасную гатоўнасць "прыхлопнуць", абвінаваціўшы яе, мову, ва ўласнай няўмеласці справіцца з развалам эканомікі, абклаўшы яе дзёгцем падазронасці і нянавісці.

І ясна, як дзень, чаму: жыве мова, значыць, жыве народ, хай ён сам, абпалены шматвяковымі маланкамі, увесь у шнарах, часам не здольны атаясаміць сябе з гэтым бляскам чароўных дыямантаў, які слепіць вочы, варта адчыніць куфар.

Я ўспамінаю абразы, якія нашы энтузіясты-навукоўцы шмат гадоў таму ратавалі ад дажджоў у храмах, пераробленых у склады і прыбіральні, знаходзілі іх пад карытамі, з якіх елі свінні. Адчышчаныя, адмытыя, адрэстаўраваныя, глядзяць сёння тыя абразы з музейных сценаў, і хочацца ўпасці на калені перад сумнымі вачыма Багародзіцы, што аддае сваё дзіця на глум і здзек, каб ён выратаваў свет. Не было б намаганняў купкі свядомых патрыётаў, мы ніколі б не пабачылі гэтай прыгажосці і вечнага цуду натхнёнай чалавечай душы.

А сёння нас ужо не купка. Усяго некалькі гадоў напаўлегальнай дзейнасці розных асветніцкіх гурткоў і тры гады нават такой "папяровай незалежнасці", як наша, далі сотні і тысячы маладых людзей, якія хочуць успомніць усё тое, што нас прымушалі хаваць уласнымі рукамі — гісторыю беларускага народа, яго імкненне да свабоды, імёны ягоных лепшых сыноў. Яны горда нясуць гістарычныя сцягі, пра якія мы толькі чыталі ў летапісах і якія афіцыйная прапаганда ўзгадвала заўсёды з агідай і страхам.

Адзін час мне здавалася, што нават гэтыя кароткія гады мы патрацілі марна, што не зрабілі таго, што маглі, не разбудзілі здранцвелыя душы. Аднак жа сёння нават камуністы, якія так многа зрабілі на пачатку перабудовы дзеля кампраметацыі нашага герба і сцяга, узгадваюць пра гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, Рускага і Жамойцкага і, здаецца, пачынаюць разумець, што праўда гісторыі неадольная. І ўсё ж цяжар мінулага ціcне, як магільная пліта.

Узгадваю адну сустрэчу з былым гісторыкам, дырэктарам школы, краязнаўцам, які паэтычна апісаў кожны куточак свайго сельсавета, занатаваў былыя назвы высахлых ужо балацявінак і змялелых рэчачак, але не хацеў слухаць пра чатырохсотгадовую гісторыю нашай зямлі пачынаючы з 1385 па 1793 год; ён паўтараў штампы, закладзеныя ў душы нашых гісторыкаў яшчэ Абэцэдарскім:

— Гэта літоўцы нас заваявалі, а мы іхні герб прапагандуем!

Спасылкі на міжнародныя канферэнцыі, дзе беларускія гісторыкі ўсё смялей і актыўней навукова даказвалі існаванне ўласнай гісторыі ў межах Вялікага Княства Літоўскага, на яго не дзейнічалі па простай прычыне: ён не чытаў аніякіх матэрыялаў па гэтых канферэнцыях. Выпушчаныя за гэтыя часы кніжкі таксама не надта даходзяць у "глыбінку": іх прагна праглынае сталіца.

Успамінаю, колькі нараканняў даводзілася выслухоўваць з прычыны таго, чаму гістарычнай спадчынай актыўна займаецца газета "Культура" ў маю бытнасць яе рэдактарам. Я і цяпер упэўненая, што зроблена гэта было правільна: ўва мне жыло прадчуванне, што грозныя і варожыя нашаму адраджэнню сілы хутка пачнуць сваю разбуральную для незалежнасці дзейнасць, і хацелася зрабіць усё, што магчыма; захаваць гурт інтэлектуалаў, якія страцілі ранейшую магчымасць выказацца па культуралагічных пытаннях, аднавіць белыя плямы гісторыі. Але думаецца, што спіральны гэты працэс трэба ўвесь час нанова насычаць новымі публікацыямі, бо год за годам выходзяць "на прасторы жыцця" новыя пакаленні беларусаў, і нельга дапусціць, каб ранейшае абалваньванне абрушылася на іх з шалёна-сакрушальнай сілай.

Настаўніку, асабліва ў сельскай школе, цяжка. Але ж хто, калі не ён, навучыць маладога чалавека патрыятызму? А лацінскае "патрыё" паходзіць ад "радзіма" і ўключае ў сябе любоў менавіта да кутка, аб якім у народным жывым слове сказана: "дарагі той куток, дзе абразала маці пупок". Сапраўды, фізічная пупавіна абразаецца, але ёсць іншая — духоўная, вечная, непарыўная сувязь, якая жывіць душу ўсё жыццё. Без яе чалавек заўсёды будзе непаўнацэнным.

У прэсе прамільгнула, нібыта на даследаваннях дзяцей і мацярок чарнобыльскай зоны шведскія спецыялісты зрабілі выснову, што да 2000 года ў нас каля 40% насельніцтва будзе непаўнавартасным. Думаецца, што жудаснае гэтае будучае чакае нас тады, калі мы зараз жа, сёння ж не пастараемся ўсвядоміць, што, цалкам занятыя соткамі, хлебам надзённым, адчаем жабрацкага існавання на фоне пастаяннай істэрыі і заклінанняў, а цяпер ужо і запланавана-добраахвотнага адмаўлення ад уласнай пупавіны, якая яшчэ так-сяк трымае нашы душы, мы і сапраўды, можа, незаўважна для сябе, ціха спаўзём у бездань нябыту.

Займаюся зараз гісторыяй XIII стагоддзя, углядаюся ў карты. Тэрыторыі, блізкія да памераў сённяшняй Беларусі, некалі займалі прусы. Моцна даймалі суседзяў магутныя і ваяўнічыя яцвягі.

Дзе яны сёння? Пра іх узгадваюць хіба гісторыкі, уражаныя бязлітаснасцю знішчэння гэтых цікавых і, пэўна ж, непаўторных народаў — варта толькі перачытаць старонкі пра міфалогію і вераванні прусаў. Але хаця б міфалогія, дый імя іх засталося, па іроніі лёсу даўшы назву самай ваяўнічай тэрыторыі заваёўнікаў. Аб яцвягах жа, хаця яны зафіксаваныя ў пісьмовых крыніцах ажно да XIX стагоддзя, мы не ведаем нічога.

Што ж — падалі ў бездань Часу вялізныя, раскошныя і вытанчаныя цывілізацыі, пакідаючы пасля сябе гліняныя таблічкі дый, бывала, усяго колькі словаў на надмагільных помніках. Але сціскаецца сэрца, калі бачыш гэтую бездань амаль пад уласнымі нагамі.

Нашае маўчанне, нашая пасіўнасць яе адчувальна набліжаюць. Між тым калі кожны, у каго засталася жывая і чуйная душа, памкнецца хаця б проста ахінуць далонямі парастак мовы, які, відавочна, адрадзіўся і трохі падняўся над патоптанай глебай за апошнія гады... Проста ахінуць! — і тое вартае павагі. А калі ўзняцца на ўвесь рост, калі рашуча і непахісна заявіць "Не!" разбэшчаным уседазволенасцю ўладам, у чым іх прамы абавязак, калі патрабаваць свайго, пакуль што хаця б на словах законнага, права...

Толькі тады можаш сам сабе сказаць, што ты вытрымаў экзамен на заяўленае яшчэ на пачатку стагоддзя права "людзьмі звацца".

Людзьмі...

Грамадскі рух

# "Аб'яднаны шлях" Беларусі

*У 1887 годзе жыхары Дэнвера (штат Каларада, ЗША) аб'ядналіся, каб вырашыць сацыяльныя праблемы, выкліканыя ў горадзе ўздымам "залатой ліхаманкі". Яны сабралі 21700 долараў, якія перадалі дзесяці гарадскім дабрачынным арганізацыям. Так быў запачаткаваны грамадскі рух "United Way", назва якога перакладаецца як "Аб'яднаны шлях".*

*Сёння "United Way" мае звыш 2300 мясцовых арганізацый па ўсім абшары ЗША. Штогод гэты рух збірае мільярды долараў для дзесяткаў тысячаў арганізацыяў : дабрачынных, сацыяльных, аховы здароўя ды іншых. Ён стаў буйнейшай у свеце сеткай збору сродкаў і дапамогі іншым грамадскім арганізацыям.*

*Арганізацыя "United Way International" была створаная ў 1974 годзе дзеля дапамогі іншым краінам у стварэнні арганізацыяў паводле мадэлі "United Way". Дзякуючы таму сёння падобныя структуры існуюць амаль у трох дзесятках краінаў, у тым ліку і ў Беларусі, дзе "Аб'яднаны шлях" пачаў дзейнасць у 1993 годзе.*

*Мэта "United Way Беларусь" — спрыянне пабудове адкрытага грамадства праз падтрымку і развіццё грамадскіх арганізацыяў. Менавіта гэтая арыентацыя на грамадскі сектар, да якога належыць і Таварыства беларускай мовы, прыцягнула ўвагу карэспандэнта "Нашага слова", на пытанні якога адказала каардынатар праграм беларускага "Аб'яднанага шляху" Аліцыя Шыбіцкая.*

**— Як у свеце разумеюць словы "грамадская арганізацыя"?**

— І дагэтуль далёка не ўсе ў нашай краіне разумеюць сэнс гэтых словаў. У савецкі час тут існавалі ДОСААФ, ОСВОД, Таварыства прыязні з замежнымі краінамі ды іншыя арганізацыі, называныя грамадскімі. Але ж вядома, што яны ствараліся, фінансаваліся і кіраваліся дзяржаваю. Дзяржаўнымі органамі прызначалася і іх кіраўніцтва, якое складалася таксама з дзяржаўных чыноўнікаў. А мэтаю існавання гэтых арганізацыяў была рэалізацыя пэўных урадавых праграмаў.

Пасля таго, як палітычнае становішча ў Беларусі даволі значна змянілася, нашыя суайчыннікі атрымалі магчымасць выказваць свае думкі і жаданні больш свабодна. На працягу некалькіх апошніх гадоў у краіне пачаўся самачынны працэс масавага далучэння людзей да грамадскай дзейнасці. У кожнага, хто імкнуўся да нейкіх пераўтварэнняў, узнікла магчымасць шукаць і аб'ядноўваць аднадумцаў. Так узніклі дзесяткі і сотні грамадскіх арганізацый самага рознага кірунку — дабрачынныя, культурніцкія, асветніцкія, маладзёжныя, экалагічныя ды іншыя.

Гэтак і мусіла адбыцца. Бо ў краінах Сярэдняй і Усходняй Еўропы пасля падзення там камуністычных рэжымаў рабілася тое ж самае. І сёння ў суседняй Польшчы колькасць розных няўрадавых арганізацыяў перавысіла 20000, а ў Венгрыі — 40000! Яны актыўна працуюць ва ўсіх сферах грамадскага жыцця і маюць значны ўплыў як на першы сектар — уладны, так і на другі — прыватны.

Нешта падобнае адбываецца сёння і ў нашай краіне. Тут, паводле папярэдніх падлікаў, існуе ад дзвюх да дзвюх з паловаю тысячаў самых розных няўрадавых арганізацыяў рознага ўзроўню — краёвых, рэгіянальных, гарадскіх... І сёння арганізацыя, у якой я працую — "Аб'яднаны шлях" — рыхтуе да выдання зборнік з інфармацыяй аб кожнай з гэтых арганізацыяў. Мы спадзяёмся, што ён дапаможа ім знайсці новых прыхільнікаў, а таксама аб'ядноўваць і каардынаваць свае намаганні дзеля дасягнення агульнай мэты — стварэння ў нашай постсавецкай краіне цывільнага грамадства.

**— Якія грамадскія арганізацыі Беларусі з'яўляюцца найбольш уплывовымі?**

— Найперш — чарнобыльскага кірунку. Многія з іх добра стаяць на нагах, бо маюць добрыя сувязі з Захадам. Што тычыцца арганізацыяў культурніцкіх і асветніцкіх (прадстаўляючы ТБМ, Вы, пэўна, мелі на ўвазе найперш яго?), дык яны выглядаюць значна слабей, найперш з-за адсутнасці масавай іх падтрымкі людзьмі.

Але, канешне, хацелася б, каб гэты пласт грамадскіх арганізацыяў развіваўся. "Аб'яднаны шлях", у сваю чаргу, гатовы аказваць ім магчымую падтрымку.

**— Які выгляд можа яна мець?**

— Пры нашай арганізацыі створаны Цэнтр развіцця грамадскіх аб'яднанняў. У ім можна бясплатна пакарыстацца нашымі тэхнічнымі сродкамі — ксераксам, факсам, электроннай поштай. Там можна атрымаць кансультацыю нашага юрыста ў пытаннях, якія датычаць сферы дзейнасці вашай арганізацыі. У нас працуе кампутарны клас, дзе можна пакарыстацца кампутарам, а тым, хто гэтага не ўмее, навучыцца на ім працаваць. Мы маем бібліятэку, у якой сабраная літаратура, звязаная з "трэцім сектарам", у прыватнасці, зборнікі адрасоў замежных арганізацыяў, з якімі варта наладжваць супрацоўніцтва мясцовым. Мы кансультуем няўрадавыя арганізацыі ў пытаннях пошуку фінансавання. Маючы кампутарную базу дадзеных аб замежных фондах, мы даём тым арганізацыям, якім гэта патрэбна, іх адрасы і дапамагаем рыхтаваць заяўкі на атрыманне ад іх грантаў.

Гэткія паслугі няўрадавым структурам мы аказваем ад пачатку нашага існавання. Але апошнім часам акрэсліўся яшчэ адзін кірунак нашай дзейнасці. Мы рыхтуем, калі гэта можна так назваць, трэнераў для грамадскіх арганізацыяў. Існуе спецыяльная праграма іх падрыхтоўкі, якая мае назву "Дэмакратычнае лідэрства".

**— Раскажыце пра яе больш падрабязна.**

— Нашымі намаганнямі 25 асобаў ужо прайшлі тры этапы семінараў паводле праграмы, распрацаванай маскоўскім Цэнтрам сацыяльна-практычнай асветы "Галубка" — адным з лепшых ва Усходняй Еўропе. Гэтая праграма, у сваю чаргу, базуецца на методыках падрыхтоўкі лідэраў амерыканскіх няўрадавых арганізацыяў.

Першая частка трэнінгу давала яго ўдзельнікам базавыя веды. Яны вучыліся стратэгічнаму планаванню дзейнасці арганізацыі, спосабам паразумення з апанентамі ў сваім асяроддзі, размеркаванню функцыяў сярод удзельнікаў арганізацыі, спосабам выпрацоўкі сярод удзельнікаў арганізацыі камандната духу і выкарыстанню патэнцыялу кожнага з іх. Яны вучыліся ствараць праекты і кіраваць імі.

Другі ўзровень трэнінгу даваў навучэнцам уяўленне аб правядзенні групавых сустрэчаў, сходаў. Падаваліся метады вырашэння магчымых у іх канфліктаў, прынцыпы перамоваў. Разглядалася канцэпцыя сацыяльнага партнёрства, пытанні маркетынгу, працы з грамадскасцю, выкарыстання людскіх рэсурсаў.

На трэцім узроўні ўдзельнікі семінара найбольш увагі надавалі праблеме дэмакратычнага лідэрства ў грамадскай арганізацыі. Кожны з яго ўдзельнікаў мог выпрабаваць сябе ў ролі кіраўніка.

У гэтым трэнінгу ўдзельнічалі людзі з розных беларускіх арганізацыяў. І цяпер яны маюць досвед практычнага вырашэння самых розных праблемаў, якія могуць паўстаць перад грамадскімі аб'яднаннямі. Сёння яны з'яўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі сваіх арганізацыяў і ў сваёй дзейнасці карыстаюцца набытымі ў нас ведамі.

Нядаўна мы праводзілі яшчэ адзін семінар, які, па сутнасці, быў чацвёртым узроўнем нашага трэнінгу. Ён ладзіўся супольна з Акадэмічным інфармацыйным агенцтвам Славакіі. Выкладчыкамі на ім былі нашыя славацкія калегі, маючыя высока цэненыя ва ўсім свеце сертыфікаты універсітэта Гопкінса.

**— Хто з прадстаўнікоў арганізацый, знаёмых нашым чытачам, праходзіў у вас падрыхтоўку?**

— Сярод тых, хто супрацоўнічаў з намі апошнім часам, я магу назваць палачаніна Алеся Аркуша з Таварыства вольных літаратараў, Сымона Глазштэйна з магілёўскага "Кола сяброў", удзельнікаў гомельскай "Талакі" і берасцейскага "Старога горада", ды і вашага Таварыства.

**— Чаму "Аб'яднаны шлях" надае так шмат увагі справе падрыхтоўкі грамадскіх лідэраў?**

— Гэта важна для нармальнага развіцця ўсяго грамадства, асабліва ў сённяшняй атмасферы напружанасці. Бо моцны трэці сектар ёсць чыннікам стабілізацыі грамадства, а сацыяльная актыўнасць грамадзян — паказчык яго дэмакратычнасці і адкрытасці.

**— Цяперашні стан заняпаду многіх беларускіх арганізацыяў сведчыць пра няздольнасць іх кіраўніцтва вырашаць праблемы, з якімі тыя сутыкнуліся і дасягнуць іх статутных мэтаў...**

— Гэта — агульная для посткамуністычных краінаў праблема лідэрства. Як я ўжо казала, традыцыяй савецкага часу было прызначэнне на пасады кіраўнікоў грамадскіх арганізацыяў урадавых чыноўнікаў. Часцяком гэтак адбываецца і цяпер — людзі спадзяюцца, што знаёмыя з кіраўніцтвам міністэрстваў урадоўцы, карыстаючыся старымі сувязямі, здолеюць вырашыць іхнія праблемы. Але звычайна атрымліваецца наадварот — свае праблемы вырашаюць менавіта чыноўнікі, але ўжо выступаючы ў якасці кіраўнікоў няўрадавых арганізацыяў.

Таму нашая праца скіраваная на падрыхтоўку ў якасці лідэраў людзей, якія дагэтуль не займаліся грамадскай дзейнасцю і прафесійныя інтарэсы якіх не супадаюць з грамадскімі. Лепшымі кіраўнікамі робяцца тыя, хто ідзе ў "трэці сектар" дзеля задавальнення патрэбаў не ўласных, а іншых людзей.

**— Існуе паняцце нефармальнага лідэрства. Чаму, у такім выпадку, існуе патрэба спецыяльнага навучання кіраўнікоў грамадскіх структур?**

— Бо, акрамя жадання нешта зрабіць, патрэбна веданне спосабаў дасягнення сваёй мэты без апоры на дзяржаву, якая спрыяе далёка не ўсім. Каб працаваць у грамадскай сферы, патрэбнае веданне законаў. Трэба ведаць абмежаванні, якія стварае дзяржава няўрадавым арганізацыям. Трэба ведаць і выконваць законныя да іх патрабаванні.

Да таго ж, у постсавецкіх краінах захавалася традыцыя абрання на кіраўнічыя пасады ў грамадскіх арганізацыях высокіх урадавых чыноўнікаў. Але ж гэтыя людзі звычайна не маюць найменшага ўяўлення аб грамадскай дзейнасці і таму будуюць свае структуры на ўзор дзяржаўных ці партыйных, карыстаючыся набытымі там досведам і сувязямі.

Грамадскі сектар патрабуе якраз іншага — умення самому вызначаць структуру арганізацыі, далучаць да яе новых сяброў, знаходзіць крыніцы яе існавання і фармаваць бюджэт, ладзіць грамадскія акцыі, працаваць з грамадскасцю і са сродкамі масавай інфармацыі, ствараючы ў вачах людзей патрэбны вам вобраз арганізацыі.

Ад лідэра залежыць, будзе арганізацыя развівацца ці занепадаць. Калі ён здолее скіраваць людзей на дасягненне агульнай, а не ўласнай мэты, калі ён будзе правадыром, а не паганятым, калі ён усталюе ў ёй атмасферу супрацоўніцтва, а не падпарадкавання сабе, калі ён будзе абапірацца на грамадскую ініцыятыву, а не на падтрымку дзяржавы (не заўсёды рэальную) — гэтае ўтварэнне мае добрыя перспектывы.

Грамадскаму руху патрэбныя лідэры, але лідэрству трэба вучыцца. Людзі, якія набудуць у нас пэўны досвед, здолеюць пазбегнуць мноства памылак, якія яны непазбежна здзейсняць, дзеючы самастойна.

**Гутарыў У.ПАНАДА.**

Тлумачальны палітычны слоўнік

# Рэферэндумная дэмакратыя

*(Працяг.)*

Кампанія 1992 года мела значны ўплыў на будучы лёс Вярхоўнага Савета, на палітычны стан беларускай дзяржавы і ў значнай ступені вызначыла сённяшнюю сітуацыю ў Беларусі. У пацвярджэнне гэтай высновы можна прывесці наступныя аргументы:

1) Упершыню ў Беларусі пад час збору подпісаў пачаў працаваць прынцып прававой дзяржавы — чыноўнік, прымаючы рашэнне, змушаны быў кіравацца Законам, а не спушчанымі зверху інструкцыямі ці тэлефоннымі ўказаннямі. Развіццё ініцыятывы фактычна з моманту ўвядзення ў дзеянне Закона аб рэферэндуме паставіла старшыняў мясцовых выканкамаў перад неабходнасцю прымаць рашэнні самастойна. Спробы адклаці рашэнне, каб мець магчымасць "параіцца" з вышэйстаячым кіраўніцтвам, прыводзілі да таго, што члены ініцыятыўнай групы, не спрачаючыся, адразу складалі пратакол аб невыкананні чыноўнікам патрабаванняў закона і перадавалі яго ў органы пракуратуры. Страх перад магчымым пакараннем прывёў да таго, што ўвесну 1992 года на сталах старшыняў выканкамаў ляжаў Закон аб рэферэндуме, і яго патрабаванні выконваліся літаральна, нават у дробязях. Гэта было ўпершыню, і гэта была сапраўдная рэвалюцыя ў адносінах чынавенства да законаў.

2) Другім станоўчым вынікам вясенняй кампаніі 1992 года было значнае павышэнне рэйтынгу палітычных арганізацый-ініцыятараў рэферэндуму — Беларускага Народнага Фронту і іншых дэмакратычных партыяў. Нават паводле афіцыйных сацыялагічных даследаванняў ён узрос за чатыры месяцы з 10 да 40 працэнтаў. Склаліся неабходныя ўмовы для стварэння грамадзянскай супольнасці.

На жаль, за вяснай актыўнай і паспяховай працы было лета, потым восень бяздзеяння ці непрадуманага дзеяння, што ў вынікуператварыла плюсы ў мінусы і, бяром на сябе смеласць сцвярджаць, стварыла перадумовы мінулагодніх і сёлетніх падзеяў. Калі б у 92-м годзе рэферэндум адбыўся, не было б Прэзідэнта Лукашэнкі, не было б рэферэндуму 1995 года, не было б палітычнага крызісу і рэферэндуму 1996 года. Ініцыятары, зрабіўшы самую цяжкую працу, не дамагліся дробязі — прызначэння даты рэферэндуму. Чаму?

Галоўная прычына — не быў выкарыстаны механізм лабіравання ў Вярхоўным Савеце. Насуперак аб'ектыўным законам парламенцкай дзейнасці, насуперак логіцы была выкарыстана тактыка прамой канфрантацыі, тактыка размовы меншасці (Апазіцыі БНФ) з большасцю мовай ультыматумаў. Можна толькі гадаць аб прычынах такіх паводзінаў. Такая тактыка, нязменная на працягу паўгода, не магла прывесці ні да чаго іншага, акрамя як да кансалідацыі органа, супраць якога быў скіраваны рэферэндум, — Вярхоўнага Савета. У выніку было прынята рашэнне аб забароне рэферэндуму. Рашэнне незаконнае. Рашэнне, якое фактычна зрабіла Вярхоўны Савет нелегітымным органам улады. Аднак і рашэнне, якое падарвала аўтарытэт ініцыятараў, знізіла іхні рэйтынг. Рэйтынг БНФ упаў ніжэй 10 працэнтаў і нават пад час такой буйной кампаніі, як прэзідэнцкія выбары, не падымаўся вышэй 17 працэнтаў. Гэта найперш вынік нерашучасці Апазіцыі БНФ і незразумеласці яе паводзінаў, калі, заявіўшы аб нелегітымнасці Вярхоўнага Савета, Апазіцыя засталася ў яго складзе.

Як сведкі падзеяў, якія адбываліся ў авальнай зале Вярхоўнага Савета ў кастрычніку 1992 года, адзначым, што, акрамя Булахава, найбольшую ролю ў забароне рэферэндуму адыграў дэпутат Лукашэнка, які на працягу трох дзён абмеркавання амаль не адыходзіў ад мікрафона. Ці не тады ён зразумеў, якая магутная зброя рэферэндум у рашучых руках?

Да чаго ў выніку прывяла ініцыятыва рэферэндуму 1992 года?

1) У грамадскай свядомасці Вярхоўны Савет стаў нелегітымным органам — узурпатарам улады, што выдатна выкарыстана ў антыпарламенцкай прапагандзе. Ніхто не хоча ўспамінаць, хто быў у складзе Вярхоўнага Савета і нясе адказнасць за прымаемыя ім рашэнні. Аднак усе помняць, як менавіта супраць дэпутатаў Вярхоўнага Савета быў скіраваны вядомы антыкарупцыйны даклад пры вельмі асцярожным абыходжанні з Саветам Міністраў. Лёгка біць таго, каго не любяць, на гэтым можна танна зарабіць "народную любоў".

2) Беларускі Закон аб рэферэндуме ёсць магутная зброя ў руках суб'екта, які мае права ініцыятывы, нават калі гэты суб'ект не мае падтрымкі большасці насельніцтва. Пры ўдалай фармулёўцы пытання можна скарыстаць агітацыйную ці падрыхтоўчую кампанію дзеля падвышэння ўласнага рэйтынгу і дасягнення спецыфічных мэтаў, у тым ліку — расправы з апанентамі.

Першы вывад даў ініцыятару наступных рэферэндумаў стабільнага "хлопчыка для біцця", даў аргументацыю тэзы "ему мешают". Другі вывад стаў кіруючым для дзеянняў. Такія дзеянні ўжо адбыліся ў 1995 і 1996 гадах. Аўтары ўпэўненыя, што ўвесну 1997 года адбудзецца трэці акт беларускай драмы.

Рэферэндум 1995 года быў выкарыстаны Лукашэнкам як сродак умацавання ўласнага лідыруючага становішча, як спосаб паставіць сябе над Законам і Канстытуцыяй. Менавіта таму былі выбраны пытанні, якія супярэчылі заканадаўству. Пацвярджэннем гэтага можа, акрамя вышэйсказанага, быць тое, што ўлады вельмі мала клапаціліся пра прыданне законнасці выпадкам галасавання, пра дакладнае выкананне рэгламентаванай законам працэдуры прыняцця рашэння і галасавання. У прыватнасці, былі значна скарочаны тэрміны агітацыйнай кампаніі, што нават не дало магчымасці праводзіць папярэдняе галасаванне за 15 дзён. Пры ўсёй бязглуздасці і недэмакратычнасці такога галасавання яно прадугледжана законам і павінна было адбывацца. Не былі сфармуляваныя праекты рашэнняў па пытаннях, якія дэклараваліся як абавязковыя, гэта значыць, што ніякія рашэнні гэтым рэферэндумам прынятыя не былі. Такім чынам, незалежна ад жадання і выказванняў ініцыятара **рэферэндум 1995 года па ўсіх чатырох пытаннях быў кансультатыўным.** Грамадзяне Беларусі, галасуючы, **выказалі сваё меркаванне, а не прынялі рашэнне.** Вынікі рэферэндуму юрыдычна нідзе не замацаваныя. Гэта прыводзіць да такіх цікавых наступстваў, як, напрыклад, тое, што выкарыстоўваемая зараз афіцыйная сімволіка адрозніваецца ад той, што была вывешана на ўчастках для галасавання 14 траўня 1995 года. З гэтага вынікае, што адначасна нацыянальную сімволіку ў якасці дзяржаўнай можна без рэферэндуму, і такое рашэнне будзе прызнана законным.

**Уладзімір АНЦУЛЕВІЧ,**
**Вера ЧУЙКО.**

*(Працяг будзе.)*

Уражанні

# З "гарачага" на "свежий"

Як хутка чыноўніцтва раённых "нізоў" улоўлівае змены ў напрамках палітычнага "ветру" ў краіне, у прыватнасці ў адносінах да беларускай мовы — проста дзіву даешся іх аператыўнасці. Свежы таму прыклад. Гады тры назад у цэнтры Слуцка адміністрацыя хлебазавода адкрыла фірменны магазін "Гарачы хлеб". Шыльду над уваходам павесілі беларускамоўную. Стала яна прыярытэтнай і ў назвах дзесяткаў дзяржаўных, прыватных магазінаў, камерцыйных шапікаў, нават на чыгуначным і аўтобусным вакзалах, хоць, шчыра кажучы, "кропак" са старымі расійскамоўнымі назвамі яшчэ хапала. Асабліва ў 11-м гарадку, дзе пражывае шмат сем'яў былых вайскоўцаў і якія непрыязна адносяцца да мовы карэннага насельніцтва краіны. І тым не менш, моўныя змены ў шыльдах, на рэкламных шчытах усялялі надзею, што прыняты Вярхоўным Саветам краіны закон аб мовах будзе і надалей няўхільна выконвацца.

Мінулагодні рэферэндум нібы вярнуў чыноўніцтва горада ў застойныя часы, калі паўсюдна ў гарадах і мястэчках былі закрыты беларускія школы. Сёй-той з чыноўнікаў, хто і раней умеў упадабляцца флюгеру, палічыў, што цяпер да беларускай мовы можна ставіцца як да падчаркі — зняважліва, абыякава, без апасення, што "вертыкаль" узгрэе за падобныя вольнасці.

Вось і адміністрацыя хлебазавода нядаўна распарадзілася зняць яшчэ не злінялую і не выцвелую беларускамоўную шыльду, а на яе месца павесілі расійскамоўную — "Свежий хлеб". Хлеб то і сапраўды там заўсёды свежы, духмяны, а ад назвы дыхнула застойнымі гадамі, што ўразіла не толькі наведвальнікаў магазіна, а і яго прадаўцоў.

І гэта — не адзінкавы прыклад такіх моўных "рэверансаў" пад "старэйшага брата". Нядаўна на тарцавым баку Дома кнігі райспажыўсаюз адкрыў шыкоўны магазін па продажы каўбас і іншай сельгаспрадукцыі. Шыльду з боку вуліцы Леніна павесілі расійскамоўную, рэкламу ў сярэдзіне над прылаўкамі распісалі таксама на расійскай мове. Дарэчы, чыноўнікі райспажыўсаюза грашаць беларусафобіяй больш чым хто ў горадзе. Гэта бачна і ў назвах іх шматлікіх магазінаў на калгасным базары.

Яшчэ прыклады. Нягледзячы на тое, што вокны-вітражы магазіна "Тысяча дробязяў", размешчанага ў самым цэнтры горада, насупраць Палаца культуры, у свой час, пры моўнай "адлізе", былі распісаны пабеларуску, шыльду тут нядаўна змянілі на расійскамоўную — "Промтовары". Грувасткую, ушыркі метраў шэсць — каб здалёк было бачна. Тое ж самае зрабілі і ўладальнікі буйнога камерцыйнага магазіна па вуліцы Максіма Багдановіча, назваўшы яго па-расійску — "Анастасия". Побач з Домам Саветаў адкрылі шыкоўны магазін з кругласутачным рэжымам работы. Усё ў ім вабіць пакупніка: і ўнутраная аддзелка, і даступная выкладка імпартных і айчынных прадуктовых тавараў і напояў. Адно бракуе: рэкламу на шкляных дзвярах і вокнах-вітражах напісалі па-расійску.

А між тым, у горадзе створаны і дзейнічае мастацкі савет, членамі якога з'яўляюцца галоўны архітэктар горада, загадчыца аддзела культуры гарвыканкама, дырэктар цэнтральнай бібліятэкі, два мастакі і іншыя прадстаўнікі гарадской інтэлігенцыі. З трыма з іх мне ўдалося пагутарыць. Склалася ўражанне, што савет больш заняты пытаннямі эстэтыкі вуліц і плошчаў горада, выбару месца пад памятныя стэлы, абеліскі, камерцыйныя шапікі. Усё гэта добра. На жаль, выбар мовы шыльдаў, рэкламных шчытоў застаецца па-за ўвагай членаў савета, ён цалкам на сумленні ўладальнікаў магазінаў, шапікаў, чыноўнікаў. А варта было б абавязаць іх прыносіць на разгляд савета эскізы будучай рэкламы і напамінаць аб прыярытэтнасці нашай роднай мовы. Можа тады б чыноўнікі-флюгеры не сталі б паспешліва зрываць беларускамоўныя шыльды і замяняць іх новымі, а фактычна старымі — як і іх мысленне.

**М.ТЫЧЫНА.**
г.Слуцк.

Падарожжа

# ГРОЗАЎ

На Капыльшчыне ўбаку ад вялікіх дарог ёсць мястэчка Грозаў. Мабыць, дзякуючы гэтай правінцыйнасці і захаваўся тут подых мястэчковай даўніны, даўно страчаны ў іншых месцах Беларусі. Зробім падарожжа ў Грозаў. Для гэтага дастаткова збочыць з шашы Менск—Слуцк, прамінуць багатае на гісторыю, хоць нічым не прыкметнае сёння мястэчка Грэск — і вось ужо адчуваецца наблізкне Капыльскай грады: мясцовасць робіцца ўсё больш узгорыстай, маляўнічай. Мінаем вёску Канюхі — радзіму вядомага мысляра Алеся Адамовіча.

Яшчэ пару кіламетраў, спуск да возера, уздым па мястэчковай вуліцы — і мы на цэнтральнай плошчы Грозава. Пасярэдзіне яе — мураваныя лаўкі, былыя гандлёвыя рады. Цяпер у іх размешчаныя харчовыя і прамысловыя крамы. Побач — сучасны на выгляд будынак клуба і праўлення калгаса. Высвятляецца, што гэта былая царква, перароблена савецкай уладай для больш важкіх патрэбаў чалавека новага грамадства. Дарэчы, да 1870-х гадоў храм гэты быў касцёлам. Перавод у праваслаўе быў зроблены пасля паразы паўстання К.Каліноўскага. Каля будынка былога храма расце дуб-асілак. Яму каля 200 гадоў, дыяметр ствала амаль 1,5 м.

Побач з канторай калгаса колькі гадоў таму быў пастаўлены крыж з мемарыяльнай плітой, прысвечаны восеньскім падзеям 1920 г. — Слуцкаму збройнаму чыну. Ва ўмовах, калі палякі пакінулі Случчыну, а бальшавікі яшчэ сюды не прыйшлі, беларусы змаглі ўсталяваць сваю ўладу, узорам якой была незалежная Беларуская Народная Рэспубліка. Сялянства Случчыны на той час ужо пакаштавала палітыкі ваеннага камунізму з харчовай развёрсткай. Таму яно актыўна падтрымала заклік Рады Случчыны весці ўзброеную барацьбу з наступаючай Чырвонай Арміяй.

Грозаў быў цэнтрам фармавання аднаго з палкоў беларускага войска. Запіс у яго праводзіўся ў панскім маёнтку — палацы Хрушчыка. Стаіць ён у паўднёвай частцы мястэчка. Да нядаўняга часу ў ім мясцілася школа. Цяпер, калі для яе пастаўлены новы будынак, палац — цудоўны помнік класіцызму (2-я палова XVIII ст.) з магутнай каланадай — занядбаны. Як памяць пра ўзброеныя сутыкненні 76-гадовай даўніны мясцовыя старажылы могуць паказаць месца на поўдзень ад мястэчка, празванае Гуляйполе, дзе было праліта шмат крыві.


Крыж паўстанцам 1920 года.
**Фота Лявона ГУМЕННІКАВА.**

Падарожнік Павел Шпілеўскі пісаў у сярэдзіне XIX ст. пра Грозаў: "Грозаў даволі чысты: у ім ёсць некалькі невялікіх крамаў, вельмі добрых будынкаў і заезных двароў... Як усялякае беларускае мястэчка, Грозаў напоўнены жыдамі, якія, дарэчы, жывуць на асобнай вуліцы". Некалькі мураваных дамкоў на цэнтральнай плошчы Грозава маюць выгляд пачатку XX ст. і, відавочна, належалі тутэйшаму габрэйскаму насельніцтву. Не захавалася грозаўская сінагога, цяпер на тым месцы стаіць Ашчадбанк. Закінутыя старыя габрэйскія могілкі, размешчаныя на пад'ёме пры ўездзе ў мястэчка з боку Грэска — справа сярод соснаў.

Ды не толькі гэтым цікавы Грозаў. Тут у перадваенны час і пасля вайны жыла і працавала самадзейная мастачка Алена Кіш. Не маючы мастацкай адукацыі, яна на простых палотнах стварала цудоўныя, казачныя карціны, населеныя міфічнымі жывёламі, птушкамі, дрэвамі. Алена Кіш хадзіла па вёсках Случчыны, прапаноўвала сваё мастацтва простым сялянам. З гэтага і жыла. Апошнія гады яе жыцця прайшлі ў Грозаве. У цяжкіх умовах паваеннага часу яна не мела магчымасцей займацца творчасцю. У 1949 годзе яна скончыла жыццё самагубствам — утапілася ў сажалцы. І сёння тутэйшыя жыхары могуць паказаць зачараваныя месцы — яміны на сажалцы ручая Вужанка, дзе жылі русалкі, дзе нельга з'яўляцца ўначы і дзе неадноўчы тапіліся людзі. Пахаваная Алена Кіш на старых грозаўскіх могілках побач з сёстрамі. Малады скульптар Уладзімір Ламейка, улюбёны ў творчасць мастачкі, стварыў арыгінальнае надмагілле, нядаўна ўсталяванае ў Грозаве.

Будзе магчымасць — не абмініце Грозаў. І не дзівіцеся, калі вам раптам сустрэнецца жыхар гэтага мястэчка і распавядзе не адну легенду пра Грозаў, а то і выкажа пажаданне правесці сюды чыгунку, каб больш людзей пазнаёміся з гэтым кутком. І Грозаў, і многія іншыя цікавыя мясціны чакаюць нас.

**Ігар ГАТАЛЬСКІ.**

# Беларуская хрысціянская дэмакратыя (1918 — 1939)

Пачаткі беларускай хрысціянскай дэмакратыі трэба шукаць у першых гадах XX ст., у той час, калі з'явіўся арганізаваны беларускі нацыянальны рух. Першапачаткова прыхільнікі хрысціянскай дэмакратыі абмяжоўвалі свае зацікаўленні справамі культурнай аўтаноміі, асабліва выкарыстання беларускай мовы ў касцёле, што дазволіла б павялічыць уздзеянне на вернікаў.

Вялікі ўплыў на дзеячаў беларускай хрысціянскай дэмакратыі зрабіла рэвалюцыя 1905 года. У страйках за свабоднае ўжыванне беларускай мовы ўзялі ўдзел кіраўнікі руху, напрыклад, кс. Адам Станкевіч, які ў той час працаваў у Ашмянскай гарадской школе. Уплыў на гэты рух мела таксама стварэнне студэнтамі Беларускай сацыялістычнай Грамады, у праграме якой былі лозунгі аўтаноміі для беларускага народа ў межах расійскай дзяржавы, склікання асобнага Сойма ў Вільні, увядзення беларускай мовы ў школьніцтва, а таксама правядзенне аграрнай рэформы. Пасля паразы рэвалюцыі 1905 года паўсталі беларускія гурткі. У 1911 годзе намаганнямі кс. Адама Станкевіча такі гурток паўстаў у Вільні, а годам пазней узнік беларускі гурток у Пецярбургскай Духоўнай Акадэміі. У першым апынуліся ксяндзы Язэп Рэшаць, М. Шалкевіч, Андрэй Цікота, Вінцэнт Лукша, Казімер Стэповіч, а таксама людзі свецкія: Францішак Аляшкевіч, Аляксандр Аўгустыновіч, Мікалай Кавалеўскі і Язэп Дашута. У Пецярбургу працавалі Лявон Хвецька, кс. П. Пякарскі, Станіслаў Шырокі, кс. Франчук, кс. Ігнат Жаўняровіч і кс. Вінцэнт Гадлеўскі.

Праца абодвух гурткоў палягала на азнаямленні з беларускімі літаратурнымі творамі і іх распаўсюджванні сярод шырокіх колаў беларускага грамадства.

Першая сусветная вайна і расійская рэвалюцыі — лютаўская і кастрычніцкая 1917 года — далі магчымасць развіцця хрысціянска-дэмакратычнага руху сярод беларусаў. У сакавіку 1917 г. на Беларускім з'ездзе ў Менску яго рэпрэзентаваў кс. Вінцэнт Гадлеўскі, які ў хуткім часе стаў сябрам Беларускага нацыянальнага камітэта. Пад час віленскай беларускай канферэнцыі (студзень 1918 г.), у якой бралі таксама ўдзел прадстаўнікі каталікоў, было прынята патрабаванне ўвядзення беларускай мовы ў Каталіцкім Касцёле, а пасля адпаведных кансультацыяў — і ў Праваслаўнай Царкве, так каб беларусы незалежна ад веравызнання маглі карыстацца ў святыні роднай мовай. 24 жніўня 1918 г. у Вільні пачала выходзіць газета "Крыніца", якая стала асяродкам фармавання беларускага хадэцкага руху.

У першай праграме гэтай групоўкі, ухваленай на з'ездзе ў Менску ў 1920 г., было патрабаванне пашырэння асветы і рэлігіі сярод беларусаў. З'езд прызнаў прыватную ўласнасць за "падставу цывілізацыйнага поступу грамадства", але дапускалася таксама і калектыўная ўласнасць. Было патрабаванне памяншэння маёнткаў абшарнікаў і падзел дзяржаўнай зямлі. У палітычных справах з'езд беларускіх хрысціянскіх дэмакратаў дамагаўся: вольнасці веравызнанняў, дэмакратычных правоў і свабод, аб'яднання ўсіх беларускіх земляў, права народа на самавызначэнне, правоў нацыянальных меншасцяў, пачатковага навучання на беларускай мове, сціслага супрацоўніцтва беларусаў праваслаўных і каталікоў. Гэтая праграма спалучала асновы сацыяльнай навукі Касцёла з беларускім нацыянальным пытаннем. Пачэснае месца заняло пытанне аграрнай рэформы.

Грамадскія ўплывы Беларускай хрысціянскай дэмакратыі былі ў той час невялікія. Падстаўовую базу партыі складала нешматлікая беларуская інтэлігенцыя. Адносна рэдка ў БХД уступалі сяляне. На выбарах 1922 г. партыя ўвайшла ў склад Блоку нацыянальных меншасцяў, а кс. Адам Станкевіч атрымаў пасольскі мандат.

Два гады пазней беларускія хадэкі стварылі арганізацыю пад назвай Беларускае Хрысціянска-дэмакратычнае Аб'яднанне, якое ў 1926 годзе змяніла назву на Аб'яднанне беларусаў-каталікоў. Колькасць сяброў аб'яднання паступова ўзрастала, і хутка яна стала другой пасля Грамады беларускай арганізацыяй. Яе ўплывы дасягалі наступных паветаў: Віленска-Троцкага, Свянцянскага, Вілейскага, Ашмянскага, Лідскага, Дунілавіцкага, Валожынскага, Слонімскага, Лунінецкага, Ваўкавыскага, Нясвіжскага і Кобрынскага. У 1926 г. у шэрагах аб'яднання працавала каля шасцідзесяці ксяндзоў беларусаў.

У трэцім квартале 1926 г. была абвешчана новая праграма Беларускай хрысціянскай дэмакратыі. У параўнанні з менскай праграмай, у гэтым дакуменце былі досыць істотныя змены. Праграма прызнавала праблему падзелу зямлі між сялянамі: без выкупу, але з кампенсацыяй дзяржавай ранейшым уласнікам. Абмежаванне права валодання зямлёй тычылася Касцёла. Было прызнана, што да партыі могуць належаць і праваслаўныя, бо ідэйнай асновай праграмы партыі прызнавалася Хрысціянства, а не Каталіцызм. У школах планавалася правадзіць лекцыі рэлігіі згодна з веравызнаннем вучняў, таксама прадугледжвалася аддзяленне Касцёла ад дзяржавы. Гэта было наступствам таго факту, што сярод беларусаў былі вызнаўцы абедзвюх хрысціянскіх канфесій.

Апроч таго, што праграма партыі ахоплівала амаль усе галіны жыцця, яе практычная дзейнасць была вельмі абмежаванай. Партыя не мела магчымасцяў уплываць на палітыку польскай дзяржавы, тая ж праграма рэформаў мела значэнне толькі на далейшую перспектыву. У штодзённай працы стаўка рабілася на культурныя і асветніцкія акцыі і ўвядзенне ў літургію беларускай мовы. У 1926 г. пад апекай хрысціянскіх дэмакратаў апынуўся таксама Беларускі інстытут гаспадаркі і культуры. У межах інстытута арганізоўваліся чытанні, выдаваліся кніжкі і папулярызавалася беларуская літаратура.

Такая сітуацыя трывала да 10 снежня 1928 г., калі віленскі арцыбіскуп Рамуальд Яблжыкоўскі выдаў ліст, скіраваны да духавенства, у якім абвінавачваў сяброў Беларускай хрысціянскай дэмакратыі ў "памылках рэлігійнага індэферэнтызму і бальшавізму" і забараніў духоўным супрацоўнічаць з партыяй, а тым, якія да яе належалі, параіў выйсці з БХД. Беларускі нацыянальны камітэт пратэставаў супраць узгаданага дакумента, бо лічыў, што ён мае палітычны, а не рэлігійны характар, а яго мэтай з'яўляецца хутчэйшая паланізацыя беларускіх земляў. БНК выстаўляў аргументы, што ліст крыўдзіць беларусаў і ў будучыні можа стаць прычынай барацьбы паміж польскім і беларускім духавенствам.

Калі ў жніўні 1935 г. ЦК Кампартыі Заходняй Беларусі звярнулася да хрысціянскай дэмакратыі з прапановай супрацоўніцтва, маючы намер стварыць антыфашыстоўскі фронт, прэзідыум БХД адкінуў гэтую прапанову. Становішча аргументавалася наступным чынам: КПЗБ — не самастойная беларуская партыя, яна вызнае інтэрнацыяналізм і падлягае КПП, прапануе ідэалогію, спрэчную з праграмай хрысціянскай дэмакратыі, і ўрэшце прымае дыктатуру пралетарыяту. Прэзідыум БХД забараніў сябрам партыі мець кантакты з КПЗБ.

Дыскусія на тэму аднаўлення беларускай хадэцыі працягвалася некалькі гадоў і скрышталізавалася ў студзені 1936 г., калі была абвешчаная праграма Беларускага народнага аб'яднання. Гэтая праграма выходзіла па-за хрысціянска-дэмакратычную канцэпцыю. БНА захавала варожыя адносіны да камунізму СССР.

Напярэдадні II сусветнай вайны, у сувязі з абвастрэннем палітычнай сітуацыі ў Еўропе, наступіла выразнае згладжванне антаганізмаў між беларускімі партыямі. Прадстаўнікам Партыі беларускіх нацыянал-сацыялістаў не ўдалося схіліць хадэкаў да ўхвалення канцэпцыі стварэння беларускай нацыянальнай дзяржавы пад пратэктаратам Нямеччыны. Хрысціянскія дэмакраты лічылі супрацоўніцтва з нацыстамі здрадай сваім ідэалам.

**Крыстына ГАМУЛКА**
**("Дыскусія").**
(Пераклад з польскай
**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**).

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Міхася Чарота (1896-1937)*

# Разбуральнік канонаў? Творца новага?

У мінулым месяцы споўнілася 100 гадоў з дня нараджэння беларускага пісьменніка Міхася Чарота (Міхася Сымонавіча Кудзелькі). Як з вышыні часу ўспрымаецца намі гэты творца? Па-рознаму, вядома. Чарот перш за ўсё паэт сваёй рэвалюцыйнай эпохі, які імкнуўся апярэдзіць сучаснасць і зірнуць у наступства:

*...Праз чорны дым паўдзённага туману*
*Гляджу я ў потнае вакно*
*Вялікае будучыні...*
*Мне хочацца разбіць яго...*
*разбіць і глянуць,—*
*Якія колеры фарбуюць новы свет?..*

Гэта радкі з ягонага верша "На шляху адраджэння". Можна сцвярджаць, што М.Чарот быў пачынальнікам авангардызму ў беларускай паэзіі. Не выпадкова М.Гарэцкі ў свой час пісаў: "Лірычныя вершы Чарота паказваюць далейшае развіццё нашага вершаванага слова ў бок музыкальнасці..." Шумную славу М.Чароту прынесла паэма "Босыя на вогнішчы" (1921), дзе паэт услаўляе рэвалюцыю. Нібы працягам гэтага твора стала паэма-фантазія "Чырвонакрылы вяшчун" (1923). Не абышоўся ён і без паэмы "Ленін" (1924). Зараз, магчыма, нераасэнсоўваючы творчасць М.Чарота, нехта заўважыць, што паэту перашкодзіў час, што ён вымушаны быў стаць паэтам-трыбунам. І сапраўды:

*Свет стары мы палім, гэта наша работа,*
*Хто з людзей пасмее кінуць нам папрок?*
*Будавалі ўсё мы — нішчыць маем права...*
*Хай усё запоўніць нашай працы сок.*

Цікава! Што значыць "нашай працы сок", які павінен усё "затапіць"? Ці не кроў гэта? Як вядома, сярод функцыяў літаратуры ёсць і выхаваўчая. І тут паэт выхоўваў чытача, натхняў яго на новыя "здзяйсненні". Сатанінская ідэя разбурэння старога свету зрабіла сваё. Магчыма, руйнуючы помнікі архітэктуры, нехта "дзіка фанацеў" ад такой паэзіі. Не маглі не мець разбуральнага эфекту і такія радкі з паэмы "Босыя на вогнішчы":

*— Маўчы! Мы цябе кулакамі,*
*Чуеш?! Ні-ні!*
*Цэрквы, палацы, харомы —*
*Памяць мінулага — з дымам!*
*Што не запалім мы — зломім!*
*Знізу наверх усё падымем!*

З іншага боку, гэтыя словы — адлюстраванне эпохі, таго, што ўжо адбывалася. Але аўтар, люструючы такую рэальнасць, падліваў у "вогнішча" алей.

Ці варта сёння перадрукоўваць у магчымым зборніку М.Чарота ягоную пралетарскую паэзію? Ці не лепш даць чытачу тое, што стаіць у баку ад "рэвалюцыйнасці" паэта. Згадаем, прыкладам, ягоны верш "Жывыя акорды", прысвечаны памяці Алеся Гаруна:

*Спакойна спі, пясняр, далёка на чужыне...*
*На што пакінуў край, які быў сэрцу міл?*
*Ці можа ты хацеў, каб на палёх краіны*
*Стаяла менш крыжоў і менш было магіл?..*

Варта адзначыць, што на аснове аповесці М.Чарота "Свінапас" (1923-1924) у 1926 г. Ю.Тарыч стварыў першы беларускі мастацкі фільм "Лясная быль".

Міхась Чарот вядомы і як драматург. Ён — аўтар вадэвіля "Мікітаў лапаць" (1923), п'ес для дзяцей "Данілка і Алеська" (1920), "Пастушкі" (1921) і інш. Паводле драмы "На купалле" (паст. 1921) А.Туранкоў стварыў оперу "Кветка шчасця" (паст. 1940). Сама п'еса пры жыцці аўтара не друкавалася. Доўгі час лічылася, што твор не захаваўся. Так сцвярджалася і ў пятым томе кароткай энцыклапедыі Беларуская ССР, які выйшаў у 1981 г. Але ўжо праз год часопіс "Полымя" апублікаваў узноўлены па памяці артыстамі К.Кулакоўскім і К.Пуроўскім тэкст п'есы. Гэтаксама па памяці перадаў паэт і перакладчык М.Хведаровіч — былы вязень сталінскай турмы — тэкст твора, які ён уведаў дзякуючы перастукванню праз сцяну ад Пугачова С.А. Арыштаваны паэт пісаў:

*Я вам не здрадзіў,*
*Не змяніў,*
*Бо славіў наш савецкі будзень.*
*Свой верш сардэчнай чысціні*
*Ахвяраваў я родным людзям.*
*Я не чакаў*
*І не гадаў,*
*Бо жыў з адкрытаю душою,*
*Што стрэне лютая бяда,*
*Падружыць з допытам*
*З турмою.*
*Прадажных здрайцаў ліхвяры*
*Мяне заціснулі за краты.*
*Я прысягаю вам, сябры,*
*Мае палі,*
*Мае бары,—*
*Кажу вам — я не вінаваты,*
*Паверце — я не вінаваты!*

Яшчэ ў 1930 годзе М.Чарот напісаў верш "Суровы прыгавор падпісваю першым". Як вядома, што пасееш — тое пажнеш. Так здарылася і з М.Чаротам. Ён нібы сам сабе падпісаў "суровы прыгавор". Кінутае ім вярнулася да яго "бумерангам". 29 кастрычніка 1937 года Міхась Чарот быў расстраляны.

Сёння не варта пасмяротна асуджаць гэтага чалавека. Ён не можа ўзняцца з магілы (магчыма, у Курапатах) і апраўдаць сябе за "Суровы прыгавор...", які ёсць маральнай падтрымкай рэпрэсіяў.

Перад намі паэт-рамантык, што ўспрыняў рэвалюцыю як шлях да светлай камуністычна гуманнай будучыні. Ён не стаў прарокам нацыі падобна Янку Купалу, не прылучыў свае паэзіі да тых каштоўнасцяў сусветнай літаратуры, на якія абапіраўся М.Багдановіч. Зазіраючы ў будучыню, М.Чарот імкнуўся надаць айчыннай літаратуры новае па тым часе гучанне. Пра Міхася Чарота можна гаварыць і адмоўнае, і станоўчае, але не заўважыць яго немагчыма.

**Генадзь КАЖАМЯКІН.**

# Мроі аб Беларусі...

Цяпер ужо многія ведаюць асобу Івана Луцкевіча, ведаюць і пра той унёсак, які зрабіў ён у гісторыю нашай краіны, у развіццё яе літаратуры, устанаўленне нацыянальнай дзяржаўнасці. Але з імем Івана Луцкевіча звязаныя не толькі палітычныя і культурныя падзеі, але і самая кранальная і рамантычная гісторыя кахання...

Напрыканцы кастрычніка ў беларускім паэтычным тэатры аднаго актора "Зьніч" адбылася прэм'ера спектакля "Віленскія мроі", пастаўленага паводле ўспамінаў Юльяны Вітан-Дубейкаўскай з роду Мэнке, у якіх адначасова жыццё кола віленскіх беларускіх адраджэнцаў пачатку стагоддзя, гістарычныя падзеі тае пары, і асоба Івана Луцкевіча, з якім Юльяну звязвала спярша шчырае сяброўства і супрацоўніцтва, а пасля — палкае пачуццё, якое вытрымала нават выпрабаванне смерцю... У спектаклі гучаць вершы паэткі Надзеі Артымовіч, якая з'яўляецца сааўтаркай спектакля. Выканаўца — мастацкі кіраўнік тэатра "Зьніч" актрыса Галіна Дзягілева. Паставілі "Віленскія мроі" два маладыя рэжысёры — Дз.Марынін і Дз.Саладуха. Мастак-пастаноўшчык — народны мастак Беларусі Барыс Герлаван. Музыку да спектакля стварыў кампазітар Алег Залётнеў.

Пабачыць "Віленскія мроі" можна ў дольнай зале Чырвонага касцёла. Даведкі па тэл. 220-44-15, 231-75-53.

**Н.К.**

# Кола сям'і

*Масару ІБУКА*

## Пасля трох ужо позна

*(Працяг.)*

### Навучанне ігры на скрыпцы развівае здольнасць да канцэнтрацыі ўвагі

У 1970 годзе на кірмашы ў Асака адбыўся канцэрт маленькіх скрыпачоў у гонар Дня ААН. Ён пачаўся ў 11 раніцы, але ўжо ў 8 раніцы большасць дзяцей, у тым ліку трох- і чатырохгадовыя, нягледзячы на халадэчу, ужо стаялі на пляцы, рэпецíравалі і настройвалі свае скрыпкі. Я быў уражаны мэтанакіраванасцю дзяцей.

Зразумела, дзіця павінна заставацца дзіцем, рухавым і цікаўным. Але рухавасць і няўседлівасць — гэта не адно і тое ж. Апошняя якасць вельмі непажаданая для дарослага чалавека. Той, хто не здольны доўга засяроджвацца на нечым адным, марнуе шмат часу і энергіі на кожнае заданне.

Той, хто выпрацаваў у сабе высокую ступень канцэнтрацыі ўвагі, валодае велізарнымі перавагамі. Лічыцца, што вучні музычных школаў дысцыплінаваныя і добра выхаваныя. Вы можаце падумаць, што бацькі трымаюць гэтых дзяцей у строгасці, і гэта можа зрабіць іх нуднымі і сур'ёзнымі ад самага дзяцінства. Нічога падобнага! Яны добра паводзяць сябе не таму, што на ўроках прысутнічаюць бацькі, а таму, што яны здольныя да высокай ступені канцэнтрацыі ўвагі без асаблівых намаганняў. Навучанне даецца ім лёгка, і яны паспяваюць зрабіць больш за іншых дзяцей за той самы час. Такім чынам, у іх застаецца болей вольнага часу.

Усе бацькі, чые дзеці наведвалі скрыпічны клас доктара Сузукі, сцвярджалі, што іх дзеці ніколі не пакутавалі, калі рыхтаваліся да іспытаў, што яны без напругі добра вучыліся, хаця шмат часу гулялі з дзецьмі на двары. Гэтае пытанне выявіла зусім новы тып дзіцяці-інтэлектуала: жыццярадасны, кемлівы і зусім не падобны да агульнапрынятага стэрэатыпу бледнага худога акулярніка.

Вядомае выказванне Канфуцыя "ў гармоніі з музыкай". Маецца на ўвазе, што музыка змякчае душу і паляпшае характар. Музычныя заняткі вымагаюць рэгулярных трэніровак, якія, у сваю чаргу, выхоўваюць здольнасць да канцэнтрацыі ўвагі. Такім чынам, музыка таксама спрыяе правільнаму фармаванню характара.

### Ігра на скрыпцы развівае рысы лідэра

Здольнасць кіраваць людзьмі лічыцца выключна дарослай рысай, і таму гэтая якасць выхоўваецца ў больш познім узросце. На самай справе якасці лідэра пачынаюць развівацца нашмат раней, чым многія мяркуюць. Заўважана, што ў любой групе дзяцей нехта абавязкова пачынае іграць ролю лідэра. У сваёй кнізе "Дзіцячая псіхалогія" доктар Ямашыта кажа, што патэнцыяльны лідэр заўсёды застаецца засяроджаным на сваіх думках і дзеяннях, нават калі вакол яго поўна іншых дзяцей. У гульні ці іншых занятках ён заўсёды спрабуе стварыць нешта новае і першым бярэцца за ўвасабленне сваіх ідэй.

Гэтыя ж якасці выхоўваюцца і заняткамі на скрыпцы. Таму няма нічога дзіўнага, што вучні доктара Сузукі — гэта жыццярадасныя, энергічныя дзеці са схільнасцю да лідэрства, а зусім не бледныя геніі. Гэтыя дзеці з часам робяцца лідэрамі ў грамадстве, якое заўсёды адчувае патрэбу ў такіх людзях.

Многія вучні доктара Сузукі занялі вядучыя пасады ў самых знакамітых аркестрах свету.

### Музычная адукацыя ў раннім узросце адбіваецца нават на знешнасці дзіцяці

Лічыцца, што знешнасць чалавека цалкам залежыць ад спадчыннасці. І ўсё ж вы, напэўна, не раз заўважалі, як змяняецца выгляд чалавека ў залежнасці ад таго, як складваецца яго жыццё. Зразумела, змяніць кардынальна форму вачэй ці носа можна толькі з дапамогай пластычнай аперацыі, але выгляд увогуле і манера паводзін вельмі прыкметна змяняюцца ў залежнасці ад жыццёвых абставін. Асабліва відочна гэтыя змяненні можна назіраць у дзяцей. Так, напрыклад, знешні воблік дзіцяці, якое слухае музыку ці бярэ ўрокі музыкі, безумоўна змяняецца пад уплывам гэтых заняткаў. Мы правялі эксперымент у Асацыяцыі ранняга развіцця з групай немаўлятаў, якія напачатку, калі маці ўпершыню сабралі іх разам, нічым адно ад другога не адрозніваліся. Затым адвольна выбралі з гэтай групы частку дзяцей і далі ім слухаць "маленькую начную серэнаду" Моцарта. Праз чатыры месяцы гэтыя дзеці істотна адрозніваліся ад астатніх: яны былі рухавей, і іх вочкі блішчэлі ярчэй.

Вядомы музычны крытык Маруо пісаў мне ў лісце: "Гукі робяць вялізарны ўплыў на чалавека. Уважлівыя маці, верагодна, заўважылі, як змяніліся дзеці з часоў Другой сусветнай вайны. Гэта адбылося па трох прычынах: 1) вырас культурны ўзровень саміх маці; 2) палепшылася харчаванне; 3) узмацнілася ўздзеянне гукаў на дзяцей.

Маруо ўпэўнены, што музыка змяняе выраз твару. Ён заўважаў гэты цікавы феномен неаднаразова. Таму ён карыстаецца метадам "пагружэння чалавека ў музыку" ў поўнай упэўненасці, што музыка робіць чалавека прыгожым. Ён лічыць, што ўжо месячнаму дзіцяці недастаткова слухаць толькі гаворку, яно, безумоўна, чуе і музыку, якая гучыць па радыё, тэлебачанні, у магнітафонных запісах.

**Пераклала Л.ШНІП.**

*(Працяг будзе.)*

---

*Таццяна Фаміна,*
*кандыдат медыцынскіх навук*

***Здароўе***

## Вітаміны групы B

### Рыбафлавін

Чарговы вітамін з групы B — рыбафлавін, або $B_2$ (а таксама лактафлавін, гепатафлавін, вітамін G) мае падобныя да свайго суродзіча ($B_1$) уласцівасці, г.зн. не баіцца высокай тэмпературы, раствараецца ў вадзе, не пераносіць святла. Ён, як і ціамін, пры ўдзеле біяактыўных элементаў, прыкладам, магнэзу, утварае энзімы, што пераносяць кісларод, г.зн. неабходныя для кожнай клеткі, а таксама дзеля прамежкавага абмену рэчываў, у прыватнасці, расшчапленне фруктозы. Навукоўцамі даказана, што дыета, пазбаўленая вітаміну $B_2$, можа абумовіць у паддоследных жывёлаў катаракту. І хвароба гэтая знікае, калі да харчу дадаюць рыбафлавін. Ён спрыяе і росту клетак эпітэлія, г.зн. зажыўляе раны. Неабходны рыбафлавін і дзеля нармальнага развіцця мазгоў у плада і немаўляці.

Недахоп вітаміну $B_2$ выразна выяўляецца на знешнім выглядзе чалавека. Калі ў вас вакол рота з'явіліся маршчыны, што разыходзяцца промнямі (асабліва на верхняй губе), калі дакучаюць заяды,— парэпаліся ў кутках вусны, павекі пачырванелі ды пякуць вочы або ў іх адчуваецца сухасць, калі валасы становяцца тлустымі, ведайце, што вам можа дапамагчы рыбафлавін. Дарэчы, падобныя з'явы могуць узнікаць і ад недахопу жалеза.

Хаця вітамін $B_2$ не разбураецца ад высокай тэмпературы, але варта ведаць, што варыць лепш у шчыльна накрытым посудзе ды нельга зліваць адвар, бо рыбафлавін раствараецца ў вадзе. Нішчаць вітамін $B_2$ антыбіётыкі ды розныя заспакаяльныя сродкі.

Даследнікі падлічылі, колькі і якіх вітамінаў гэтай групы нішчыцца, прыкладам, пры неадпаведным — на святле і паза лядоўняй — размарожванні мяса. Ялавічына ў такіх умовах за палову сутак траціць:

ціаміну — 12%,
рыбафлавіну — 10,3%,
ніяціну — 14,5%,
пірадаксіну — 9,4%,
пантатэнавай кіслаты — 33,3%,
фоліевай кіслаты — 8,1%.

Але такой страце можна запабегчы, калі замарожанае мяса пакласці ў кіпень.

#### Крыніцы вітаміну $B_2$

Не толькі мяса траціць рыбафлавін, але і малако, якое будзе стаяць у шкляным посудзе на сонцы. Даказана, што малако ў празрыстай шкляной бутэльцы цягам дзвюх гадзінаў губляе 50% гэтага вітаміну. Варта запомніць некаторыя звычайныя ўмовы перасцярогі: накрывайце посуд, у якім варыце. Не вылівайце адвару з бульбы. Не мыйце абабраную гародніну ў вялікай колькасці вады. Не трымайце гародніну доўга ў лядоўнях — штодзень разбураецца 1% вітаміну $B_2$.

З вядомых у нас прадуктаў найболей рыбафлавіну ў сухіх пякарскіх дрожджах — 3500 — 4800 мікраграм у 100 грамах (у свежых — 1700). Піўныя дрожджы маюць прыблізна на 1000 мг менш. У іншых прадуктах: белы сыр — 515, яйкі і какава — 450, тварог — 380, цяляціна — 300, бараніна — 270, свініна — 240, пшанічная мука — 230, ялавічына — 190, свежае малако — 150, рыбы — 120, какорыца (кукуруза) — 100 мікраграмаў у 100 грамах.

Якая ж колькасць рыбафлавіну нам патрэбная? Мужчынам — 1,6 мг, жанчынам — 1,2 мг, а цяжарным — больш: каля 3 мг. Прыблізна столькі ж мусяць спажываць людзі, хто есць мяса і наогул бялковы харч.

Паводле часопіса "Prevention" маецца ў 100 грамах: варанага гароху — 11, пшаніцы — 12, гарбузіках — 19, яйках — 25, лыжачцы піўных дрожджаў — 32, грыбоў — 46 міліграмаў вітаміну $B_2$.

---

***Зялярскія гутаркі***

## Морква

Хто можа пахваліцца, што свайму дзіцяці купіў замест булкі ці цукеркі ў кулінарнай ці гароднінай краме моркву? Ды такога дзівака маглі б падняць на смех. Вельмі шкада, што нашыя звычкі і норавы змяніліся не на карысць нашаму здароўю. Морква, паўсюдны калісь ласунак, страціла сваю прывабнасць. І ўжо толькі ў вершах ды ва ўспамінах дзяцінства згадваецца смакоўнае пахрумстванне, а таксама можна пачуць, што чыесь кошка ці сабака любяць грызці сырую моркву.

Грызці сырую моркву карысна перш за ўсё дзеля здаровых зубоў: лагодна паціраюцца дзясны, насычаюцца і мінеральнымі солямі. Да таго, ж у моркве шмат караціну ды іншых каратыноідаў, вітамінаў $B_1$, $B_2$, $B_5$, C, K, вугляводаў, пераважна глюкозы.

Карацін пад уздзеяннем ферменту печані пераўтвараецца ў вітамін A, які спрыяе нармальнаму абмену рэчываў, стымулюе фізічнае і разумовае развіццё дзяцей, павышае супраціўленне арганізма прастудным захворванням, забяспечвае нармальнае функцыянаванне органаў зроку.

Моркву і свежы яе сок раяць піць хворым, у якіх авітаміноз. Трэба ўлічваць, што лячэнне сокам не дае імгненнага эфекту, таму спажываць яго варта працяглы час. Да таго ж, памятайце, што кожны сок трэба спажываць напалову разбаўленым. Каб атрымаць сок, цяпер не раяць выкарыстоўваць сокавіроўкі, а найлепей выціснуць яго рукой з нацёртай на пластмасавай тарцы морквы, бо жалеза, як вядома, разбурае вітаміны. Добрыя вынікі дае спажыванне соку з морквы пры захворваннях, што ўзніклі праз парушэнні абмену мінеральных рэчываў,— жоўцекаменнай хваробы, абменным поліартрыце. Раяць даваць такі сок пры інфаркце міякарда, пры хваробах печані ды паніжанай функцыі шчытападобнай залозы. Цёртую моркву выкарыстоўваюць дзеля суцішэння болю пры апёках, яе накладваюць на раны або абмываюць іх сокам. Дзеля лячэння ныркакаменнай хваробы раяць такі рэцэпт: тры сталовыя лыжкі цёртай морквы заліць трыма шклянкамі вару, настойваць ноч, раніцай падагрэць і піць гарачым па аднай шклянцы тройчы на дзень. Або сок піць па сталовай лыжцы тройчы на дзень некалькі месяцаў запар. Не варта спажываць сок з морквы, калі хворы мае язву страўніка або дванаццаціперснай кішкі, энтэрытах і запаленнях прамой кішкі.

**Зяляр.**

---

***Ваша сядзіба***

## Тэхналогія агародніцтва Д.Мітлайдэра (ЗША)

*(Заканчэнне.)*

Яшчэ раз хачу папярэдзіць шаноўных чытачоў, што пра тэхналогію агародніцтва доктара Мітлайдэра я напісала вельмі скарочана, маючы на ўвазе газетныя магчымасці. Хто зацікавіцца вопытам амерыканскага агародніка, трэба памятаць, што ТМ звяртае пільную ўвагу на стан глебы, пры якім істотна зніжаецца ўраджайнасць. Гэта:

а) высокая ступень засоленасці глебы; тут мае значэнне, якія солі і ў якой колькасці прысутнічаюць;

б) парушэнні кіслотна-шчолакавага балансу;

в) вельмі дрэнны дрэнаж, забалочванне;

г) нарэшце — адсутнасць пажыўных рэчываў у глебе. Без корму ніякія тэхналогіі не дапамогуць.

Пра хімічную раўнавагу (кіслотна-шчолакавы баланс) лепей за ўсё спытацца ў спецыяліста, бо мала хто самастойна зможа зрабіць адпаведны аналіз. Тут у больш выгадным становішчы аказваюцца члены садова-агародных кааператываў, якія могуць выклікаць патрэбнага спецыяліста, зрабіўшы адпаведныя складкі. А ўвогуле пра барацьбу з кіслотнасцю глебы можна прачытаць у дапаможніках па агародніцтве, якіх зараз выпускаецца багата.

Яшчэ доктар Мітлайдэр звяртае ўвагу на неабходнасць вузкай градкі і шырокай дарожкі. Гэтыя асаблівасці праверaныя на практыцы болей чымся у 30 краінах свету на любых відах глебы. Пры адлегласці паміж градкамі 60 см для некаторых культур націну трэба будзе падымаць угору і вырошчваць культуру ў вертыкальным становішчы. Для гэтага патрэбныя калкі памерам 5х5 см і даўжынёй 3 м. Іх забіваюць у грунт на глыбіню 25 см у адзін рад з раслінамі на адлегласці паміж сабою 75—90 см. Паміж калкамі нацягваецца шнур. Па ТМ калкі афарбоўваюцца ў белы колер.

Вялікая ўвага надаецца рэгулярнаму і дастатковаму паліву раслін. У падручніку ТМ апісваецца аўтаматызаваны паліў. Для гэтага пластмасавыя трубы наразаюць на кавалкі, роўныя даўжыні градкі. Па трубе на трох прамых лініях, размешчаных пад вуглом 30 градусаў адна ад другой, праз 100 мм робяцца адтуліны сячэннем каля 1,6 мм. Трубы кладуцца пасярэдзіне градкі (сярэдні рад адтулін накіраваны ўніз) і састыкоўваюцца з падведзеным вадаправодам. Пры любым спосабе паліву вада наліваецца на градку не болей 5 см.

Што да мяне, то я паліваю градкі бляшанкай з разліку 1 вядро вады на 3 п.м. градкі.

Неаднаразова ТМ падкрэслівае неабходнасць трымаць агарод у чысціні без ужывання гербіцыдаў. Праз некалькі дзён пасля першага паліву з'яўляецца пустазелле. Вынішчаць яго трэба неадкладна, любая затрымка ў гэтай справе прывядзе да неабходнасці барацьбы з пустазеллем на працягу вегетацыйнага сезона.

Найбольш эфектыўная мера барацьбы з пустазеллем складаецца ў знішчэнні прарастаючага семя каля паверхні глебы. Таму ТМ не раіць глыбока ўскопваць, а таксама перакопваць дарожкі, бо пры гэтым семя пустазелля застанецца ў ніжніх пластах глебы, дзе яно не зможа прарасці. Каб аблегчыць працу з тым пустазеллем, што ўсё ж прарасло побач з культурнымі раслінамі ў радках, ТМ раіць знішчаць яго шляхам накідкі тонкага пласту глебы на сцяблíны культурных раслін.

ТМ сцвярджае, што з моманту з'яўлення расліны на свет клапаціцца пра яе трэба пастаянна. Для нармальнага росту і развіцця расліны неабходна:

— кожны дзень паіць вадой,
— кожны тыдзень падкармліваць,
— трымаць агарод у чысціні,
— пры неабходнасці праводзіць абрэзку, пасынкаванне. Кожны несвоечасова абрэзаны пасынак — гэта ў далейшым лішні клопат, у тым ліку пра тое, як засцерагчыся ад фітафторы.

Напрыканцы крыху пра шкоднікаў. Пра тое, як з імі змагацца, у тым ліку без ужывання ядахімікатаў, можна знайсці ў многіх дапаможніках па агародніцтве. Тут адзначым толькі, што ТМ не раіць мульчыраваць глебу саломай, пілавіннем, газоннай травой і т.п., бо гэта выдатныя схованкі і інкубатары для розных шкоднікаў. Але ўжо калі яны размножыліся, ТМ раіць выкарыстоўваць інсектыцыды ўвесь час, аднак, памятаючы, што гэта атрута і для чалавека.

На гэтым аўтар гэтых радкоў мусіць паставіць апошнюю кропку. Не таму, што тэма вычарпаная, зразумела. Калі ў чытачоў будуць пытанні, пастараюся на іх адказаць.

**Л.СУДЗІЛОЎСКАЯ.**

**Ад рэдакцыі.** Мы не супраць прадаставіць шаноўнай аўтарцы такую магчымасць, але ўжо ў наступным годзе... Калі, праўда, газета зможа выжыць. А каб яна выходзіла, трэба, каб яе выпісалі як мага болей людзей. Так што будучыня "Нашага слова" ў вашых руках, шаноўныя чытачы. Усяго добрага вам у наступаючым Новым годзе!

